Жыве Беларусь!




# Родная ніва

Газета ўзнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Заснавана ў красавіку 1918 года

2000
6 МАЯ
СУБОТА
№ 36 (9523)

## 9 мая Вялікай Перамозе — 55 гадоў!

## СА СВЯТАМ ПЕРАМОГІ!

Дарагія клімаўчане!

Паважаныя ветэраны і ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны!

9 Мая наша родная Беларусь, яе мужны, працалюбівы народ адзначаюць свята слаўнай, гістарычнай Перамогі.

Мір на нашай зямлі быў заваяваны велізарнай цаной, гераізмам усіх народаў шматнацыянальнага Савецкага Саюза. Наша краіна і сёння, у новых геапалітычных умовах, імкнецца жыць у садружнасці з брацкай Расіяй і з іншымі народамі свету.

Горача і сардэчна віншуем вас са святам 9 Мая — Днём Перамогі, днём усенароднага гонару і ўсенароднага смутку, самым яркім і незабыўным святам айчыннай гісторыі!

Нізкі паклон вам, удзячнасць і захапленне, нашы шаноўныя ветэраны-вызваліцелі, усе тыя, хто 55 гадоў таму заваяваў Вялікую Перамогу над фашызмам, прынёс на планету доўгачаканы мір, вярнуў чалавецтву чысціню і блакіт веснавога неба!

У гэты сонечны дзень жадаем вам моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, бадзёрасці і аптымізму, надзеі і шчаслівай будучыні!

Міру вам і дабрабыту, дарагія землякі!

**Раённы выканаўчы камітэт**
**Раённы Савет дэпутатаў**



**Штогод у Дзень перамогі кіраўнікі раёна ўшаноўваюць памяць былых франтавікоў. Разам са старшынёй раённага выканаўчага камітэта Уладзімірам Венедзіктавічам Канавалавым — ветэраны вайны і працы, прадстаўнікі працоўных калектываў.**

**Фота В. АСМАЛОЎСКАГА.**

## ДОШКА ГОНАРУ

### Лепшыя механізатары калгасаў і саўгасаў раёна на веснавых палявых работах

**(Згодна даных райкама прафсаюза работнікаў АПК)**

Калеснікаў Аляксандр Сцяпанавіч — механізатар птушкафабрыкі. На трактары МТЗ-82 у агрэгаце з сеялкай СПУ-6 за адзінаццаць дзён пасеяў 316 гектараў зерневых пры норме 220, або справіўся з ёю на 144 працэнты.

Даніленка Васіль Сямёнавіч — механізатар саўгаса "Малышкавічы". На трактары МТЗ-1221 у агрэгаце з МВУ-6 унёс мінеральныя ўгнаенні на 460 гектарах пры норме 270.

Осіпаў Уладзімір Нікіфаравіч — механізатар племзавода "Ціманава". На трактары К-701 у агрэгаце з культыватарам АКШ-7,2 за адзінаццаць дзён падрыхтаваў 408 гектараў глебы пры норме 346, або справіўся з ёю на 118 працэнтаў.

Афанасаў Сяргей Анатольевіч — механізатар калгаса "Галіцкі". На трактары МТЗ-80 у агрэгаце з МВУ-6 за сем дзён раскідаў мінеральныя ўгнаенні на 357 гектарах пры норме 238, або выканаў яе на 150 працэнтаў.

Купрэеў Аляксандр Андрэевіч — механізатар калгаса імя Янкі Купалы. За дзесяць дзён унёс мінеральныя ўгнаенні на 331 гектары пры норме 275. Выкананне склала 120,4 працэнта.

Габрусеў Сяргей Віктаравіч — механізатар саўгаса "Мілаславіцкі". На трактары МТЗ-82 у агрэгаце з МВУ-0,5 за восем дзён унёс мінеральныя ўгнаенні на 252 гектарах пры норме 216, выкананне якой склала 116,6 працэнта.

Папялышка Віталь Пятровіч — механізатар племсаўгаса "Высакоўскі". На трактары МТЗ-82 у агрэгаце з сеялкай СЗТ-3,6 падсеяў канюшыну пад азімыя на 206 гектарах пры норме 175.

Сафранкоў Віктар Віктаравіч — механізатар саўгаса "Звянчацкі". На трактары МТЗ-80 у агрэгаце з КПС-4 за восем дзён пракультываваў 176 гектараў глебы пры норме 128, або дабіўся яе выканання на 137,5 працэнта.

Будзянкоў Віктар Пятровіч — механізатар аграгандлёвага прадпрыемства "Асмолавічы". На трактары МТЗ-80 у агрэгаце з плугам ПЛН-3,35 за семнаццаць дзён падрыхтаваў 96 гектараў глебы пры норме 61, або справіўся з ёю на 157 працэнтаў.

**Падрыхтаваў І. ЛАПО.**

## Звон яднання славянскіх народаў — лепшая даніна памяці герояў

Кіраўнікі трох славянскіх краін — Беларусі, Расіі і Украіны — Аляксандр Лукашэнка, Уладзімір Пуцін і Леанід Кучма сустрэліся 3 мая на месцы ратнай славы народаў былога Савецкага Саюза — на Прохараўскім полі ў Белгародскай вобласці. Урачыстасці былі прымеркаваны да 55-й гадавіны Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне і пяцігадоваму юбілею Дзяржаўнага ваенна-гістарычнага музея-запаведніка Прохараўскае поле.

У прысутнасці кіраўнікоў трох дзяржаў адбылося адкрыццё помніка воінам, якія загінулі на Прохараўскім полі. Яго асвяцілі Патрыярх Маскоўскі і Усяе Русі Аляксій II. Прадстаўнікі рускай Праваслаўнай царквы ў прысутнасці Аляксандра Лукашэнкі, Уладзіміра Пуціна і Леаніда Кучмы адслужылі ў храме Велікодны малебен. Не выпадкова звон, які сімвалізуе адзінства трох славянскіх народаў, устаноўлены тут, на адным з трох вялікіх палёў ратнай славы, — сказаў пасля асвячэння звона Патрыярх Аляксій.

Падышоўшы да асвячонага звона, Аляксій II тройчы ўдарыў у яго. Затым Аляксандр Лукашэнка, Уладзімір Пуцін і Леанід Кучма ў знак яднання Расіі, Беларусі і Украіны разам ударылі ў звон яднання славянскіх народаў, на якім напісаны словы прападобнага Сергія Раданежскага: любоўю і адзінствам выратуемся.

## СЛАВА І ПАШАНА ВАМ, ВЕТЭРАНЫ!

Усё далей і далей адыходзяць у мінулае суровыя гады Вялікай Айчыннай вайны. З кожным годам менш застаецца яе ўдзельнікаў і тых людзей, якія сваімі вачыма бачылі і перажылі цяжкасці і жахі ваенных гадоў. Цяпер, калі кожнаму ўдзельніку вайны далёка за 70, страты асабліва адчувальныя.

7315 клімаўчан загінулі ў баях, прапалі без вестак, 78 партызан і падпольшчыкаў былі расстраляны, знішчаны нямецкімі акупантамі, 1069 юнакоў і дзяўчат — угнаны ў Германію на катаржныя работы. За 27 месяцаў фашысцкай акупацыі Клімавіцкага раёна былі поўнасцю разбураны амаль усе прамысловыя прадпрыемствы, сельская гаспадарка, разграблены ўстановы культуры і адукацыі, у руіны і папялішчы ператвораны многія вёскі.

Наш раён за гады вайны страціў кожнага трэцяга жыхара. Разам з усімі народамі Савецкага Саюза нашы землякі і клімаўчане ўнеслі дастойны ўклад у Вялікую Перамогу.

За мужнасць і гераізм 4256 чалавек узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Сярод іх Дзмітрый Давыдзенка,Дзмітрый Маркаў, — удзельнікі гістарычнага Парада Перамогі ў Маскве, абаронцы сталіцы нашай Радзімы ў 1941 годзе Фаіна Камкова, Павел Пасекін, Філіп Арэхаў, Мікалай Шаверын, прайшоўшыя ўсю вайну Аляксей Давыдаў, Андрэй Галкоўскі, Іван Курносаў, Рыгор Садоўскі, Аляксей Захарэнка, Канстанцін Малашанка, Іван Шаўцоў, Генадзь Падчышчалаў, Павел Дарашкоў.

(Працяг на 4-й стар.).

## Нізкі паклон табе, ветэран

Не так даўно ў Раднянскай сельскай школе прайшла сустрэча вучняў і педагагічнага калектыва навучальнай установы з былымі вязнямі фашысцкіх канцлагераў.

Распачаў сустрэчу дырэктар школы Васіль Іванавіч Саламацін, які нагадаў прысутным пра жудасныя гады вайны і пра той подзвіг, які здзейсніў наш народ у барацьбе за сваё вызваленне. Запрошаныя на сустрэчу ветэраны падзяліліся сваімі ўспамінамі.

Перад школьнікамі выступілі В. П. Лук'янаў, М. С. Чыж, Л. А. Жулей, С. М. Макараў, А. В. Прыгорчанка, М. І. Салаў.

Вучнямі шостага класа быў падрыхтаваны канцэрт мастацкай самадзейнасці.

За салодкім сталом, які быў зроблены для гасцей, дырэктар навучальнай установы ўручыў кожнаму ветэрану каштоўны падарунак — кнігу "Памяць".

У арганізацыі вечара актыўны ўдзел прынялі члены пярвічкі ГА БПСМ, настаўнікі школы. Правяла вечар намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце В. І. Падгурская.

**Н. ВОЛЬНЫ.**

## На першамайскім свяце

На свяце Вясны і Працы — на першамайскім свяце ў нас у Клімавічах — нягледзячы на наступленне непажаданага халоднага паўночнага цыклона, было мнагалюдна і весела.

На плошчы 50-годдзя Вялікага Кастрычніка загадзя ўстанавілі імправізаваную сцэну, дзе святочны канцэрт давалі юныя артысты з усіх гарадскіх агульнаадукацыйных школ і школы-інтэрната. І гледачоў тут было нямала. У гэты ж час цэлая чарга выстраілася ля дзіцячых каруселяў. Да свята яны былі падрыхтаваны як след: адрамантаваны, пафарбаваны ў яркія колеры.

Скончыўся канцэрт, але людзі не спяшаліся разыходзіцца з плошчы, бо была аб'яўлена забаўляльна-гульнявая праграма. Праводзілі яе работнікі РЦК. Удзельнікі свята праяўлялі на дзіва высокую актыўнасць, што было вельмі прыемна назіраць. А дзяўчаты не скупіліся на прызы, у адказ атрымлівалі ўдзячнасць за арганізаваныя цікавыя конкурсы.

Затым яшчэ доўга гучала вясёлая эстрадная музыка, і ўсе жадаючыя мелі магчымасць патанцаваць.

Працавалі ў той дзень на плошчы і гандлёвыя рады.

**В. КВАРЦЮК.**

# Беззапаветная храбрасць вяла праз віхуры вайны

Борис ВОРОНИН

## Последний ветеран

Так будет. В день большого юбилея,
В канун Победы славной для страны,
Чтоб праздник стал весомей и светлее,
Начнут искать участников войны.

И чаще безуспешным будет поиск:
Ушли из жизни, затерялся след,
И не спешит везти трудяга-поезд
Свидетелей тех легендарных лет.

И все же где-то, далеко ли близко
Гонцы былого воина найдут
И приведут на митинг к обелиску,
Где будут речи, праздничный салют.

Там скажет ветеран слова простые,
Что он по званию всего солдат,
В боях, как мог, служил своей России,
За что имеет несколько наград.

— Такой войны в истории не знали;
В сражениях от голода и ран
Одних мужчин мы столько потеряли,
Что их хватило бы на пару стран.

Нельзя, чтоб это снова повторилось.
Прошу вас, только вдумайтесь на миг:
Нарушил мир, и вот уж кровь пролилась;
Бесценны жизни, берегите их!

Желаю вам не слышать гул орудий,
В глазах детей не видеть боль и страх.
Как тяжело, поверьте в это, люди,
Нести войну на собственных плечах!

## І дабрынёй, і мудрасцю жыццёвай

Расказаць Міхаілу Дзямідавічу і Тамары Іванаўне ёсць пра што. Жыццё пражылі — не поле перайшлі. Як-ніяк — а пяцьдзесят год разам ідуць па сямейных пуцявінах. Ды яшчэ калі Міхаіл Дзямідавіч дапоўніць да гэтага расказа свае ўспаміны пра франтавыя будні, то салідная споведзь атрымаецца. Споведзь двух сумленных, працавітых, жыццярадасных, нягледзячы ні на якія цяжкасці, людзей.

— Маё юнацтва, як і многіх маіх равеснікаў, звязана з вайной, — бярэ першым слова гаспадар. — У сорак трэцім, мне толькі споўнілася семнаццаць, пайшоў на фронт. Першы бой прыняў пад горадам Крэйцінгам, (літоўскі напрамак), тут я атрымаў першую баявую ўзнагароду — медаль "За адвагу". Перад Кенігсбергам быў паранены. Затым баі ва Усходняй Прусіі, за порт Пілаў, бітва за Земландскі паўвостраў. На касе Хель (там была вялікая групоўка фашыстаў) мы даведаліся аб безагаворачнай капітуляцыі Германіі. Але для мяне вайна яшчэ не скончылася: трэба было знішчыць значную колькасць гітлераўскіх войск, якія працягвалі супраціўленне. Вось тут я атрымаў сур'ёзнае раненне. Пасля лячэння ў шпіталі мяне камісавалі як інваліда другой групы.

Пасля вайны Міхаіл Кісялёў вырашыў стаць механікам. Закончыў Магілёўскае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, працаваў начальнікам Клімавіцкай выпрабавальнай станцыі ў міжраённай майстэрні па капітальнаму рамонту аўтатрактарных рухавікоў. Потым перайшоў у Клімавіцкую МТС механікам. А пасля — куды толькі лёс не закідваў! Калуга (праходзілі вывучэнне новых танкаў), Масква (будаўніцтва універсітэта імя Ламаносава), Пінск (вучоба ў індустрыяльна-педагагічным тэхнікуме), плюс да таго шэсць разоў бываў на цаліне. Так што яго палавіне — Тамары Іванаўне — таксама нялёгка даводзілася: трэба было і дзетак гадаваць, і гаспадарку дагледзець, і на работу хадзіць — усё жыццё адпрацавала на камбінаце бытавога абслугоўвання, раней ён называўся прамкамбінат. Але разумела гаспадыня: раз пасылаюць яе мужа на адказныя работы, значыць, ён там патрэбен.

Але асноўны яго працоўны шлях прайшоў у ПТВ-214 — лічыце, 36 год адпрацаваў тут майстрам вытворчага навучання, выкладчыкам спецдысцыплін. Званне заслужанага работніка прафтэхадукацыі рэспублікі даецца нездарма.

Пазнаёміліся Міхаіл і Тамара звычайна — на адной з вечарынак пад гармонік у саўгасе-тэхнікуме. 6 красавіка 1950 года афіцыяльна аформілі сямейныя адносіны ў загсе.

Далейшая размова пайшла пра дзяцей, пра той галоўны адказны клопат, дзеля якога і жывуць усе бацькі. Тамара Іванаўна далучаецца да размовы і



На здымку: залатыя юбіляры — Міхаіл Дзямідавіч і Тамара Іванаўна Кісялёвы.

з задавальненнем расказвае пра сваіх дачушак, зяцёў і ўнукаў. Старэйшая дачка Валя пасля заканчэння школы з залатым медалём паступіла ў Магілёўскі педінстытут, пасля яго заканчэння некаторы час працавала ў Клімавічах, зараз жыве з сям'ёй у Мінску. Малодшая, Таня, — медыцынскі работнік, гамяльчанка. Асаблівая радасць у бабулі і дзядулі за ўнукаў. Двое старэйшых — Паша і Лёша — атрымалі ўжо вышэйшую адукацыю: першы ў Белдзяржуніверсітэце на факультэце інфарматыкі і радыёэлектронікі тэлекамунікацый, другі — у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі на эканамічным факультэце. Унучка Наташа — студэнтка Гомельскага інстытута эканомікі, а самы меншы Ілья паступіў на першы курс інстытута чыгуначнага транспарту.

— Як калісьці мы стараліся, каб нашы дзеці атрымалі вышэйшую адукацыю, так цяпер і нашы дочкі жывуць дзеля іх, працуюць дзеля іх, дапамагаюць, каб былі людзямі адукаванымі, — лагодна ўсміхаецца гаспадыня. — Ды і мы з дзедам не сядзім склаўшы рукі: чым можам, дапамагаем. Разумеем, вучыцца зараз нялёгка.

Рады Кісялёвы кожнаму прыезду дзяцей і ўнукаў да сябе ў госці. А нядаўна, у дзень святкавання залатога вяселля, сабраліся разам у акуратным доміку на Дзяржынскага ўсёй сваёй дружнай сям'ёй — дзеці, унукі, родныя і блізкія. Успомнілі шмат эпізодаў з жыцця бацькоў за святочным сталом, гучалі цёплыя словы віншаванняў і ўдзячнасцей за іх бясконцы бацькоўскі і мацярынскі клопат аб доме, сям'і, дзецях, унуках. Іх дабрыня і жыццёвая мудрасць па праву заслугоўваюць самых шчырых слоў павагі і любві.

Р. СЯРГЕЕНКА.
Фота з сямейнага альбома.

Побач

## Праца кожнага ўхваляе

Яшчэ ў маладыя гады пазнаёміўся я з Аляксандрам Траяноўскім. Чалавек як чалавек — няспешны ў рухах, памяркоўны і разважлівы, ён спадабаўся як цікавы субяседнік, які той, хто мае паэтычныя здольнасці. Калісь, памятаецца, Траяноўскі публікаваў некаторыя свае вершы ў нашай раёнцы.

У апошнія гады сустракаў яго з жонкай Верай Міхайлаўнай — па ранках, — яны разам хадзілі на работу ў Клімавіцкія электрасеткі. Сорак год Аляксандр Ільіч Траяноўскі аддаў гэтаму калектыву, адкуль і праводзілі ветэрана на пенсію.

**МАМА, ДЗЕЦІ І ВАЙНА**

Саша ўвогуле хлапец магілёўскі. Там нарадзіўся і жыў. Бацька працаваў у леспрамгасе, хапала спраў і маці. Як-ніяк двое дзетак у сям'і. У 1939-м не стала Ілы Уласавіча, і ўсё лягло на жаночыя плечы Ніны Уладзіміраўны.

Шасціґадовым дзіцём сустрэў Саша вайну...

— Заўтра, дзеткі, паедзем у Пензу, шаўковую фабрыку туды эвакуіруюць, — уздыхнула, прыйшоўшы дамоў, маці і яшчэ раз перагледзела сабраныя ў далёкую дарогу клункі. Дзякуй Богу, што старэйшы брат мог дапамагчы. Але да Пензы эшалон з Магілёва не дайшоў: гітлераўцы перарэзалі дарогу, і накірунак стомленых, расхваляваных людзей змяніўся на Тамбоўскую вобласць.

— Не соладка было, — успамінае Аляксандр Ільіч. — Маці працавала, брат быў памочнікам каваля. Хапіла ўсяго: вайна ёсць вайна, і тым усё сказана.

Як бы там ні было, а сям'я Траяноўскіх таксама наблізіла Перамогу. І яе подых дайшоў і да эвакуіраваных.

— Варонеж вызвалілі, — пранеслася неяк абвестка. Зазбіраліся ізноў у далёкую дарогу. Дахалі — а ў Варонежы ўсё разбіта-развалена.

Рашылі дабірацца бліжэй да Магілёва. Так і аказаліся ў Клімавічах, якія таксама сталі вольнымі ад фашысцкай навалы.

— Вось тут мы і застралі, — доўжыць нашу гутарку Аляксандр Ільіч. — Маці ўладкавалася ў бухгалтэрыю МТС і брат знайшоў работу.

Пачыналася мірнае жыццё.

**ВЫБАР**

У Клімавічах Траяноўскі-малодшы пайшоў у другі клас СШ № 2. Тады школа размяшчалася ў будынку, дзе зараз знаходзіцца дзіцячая мастацкая школа, потым яе перавялі ў памяшканне, што побач з былой палiклінікай у цэнтры горада. Вучыўся Саша добра. Ён рана зразумеў, што трэба і самому капейку прынасіць у сям'ю. Цяжка было без бацькі.

Уладкаваўся вучнем токара ў МТМ (так называлася машынна-трактарная майстэрня). Асвоіў прафесію і з цягам часу пераўшоў на электрастанцыю, дзе працаваў брат.

1954 год. У халаднаватыя ўжо кастрычніцкія дні Сашу Траяноўскага прызвалі на тэрміновую армейскую службу. Хутка прыслаў ён сваім пісьмо з цёплага Баку.

— Служыў радыстам, — Аляксандр Ільіч на секунду прымаўкае, успамінаючы. Служба — пара незабыўная, і кожны, хто надзяваў салдацкую форму, гэта выдатна ведае.

Памужнелы, ён вярнуўся дамоў. Туды-сюды — не будзеш жа без справы тулящца — і вось ужо Траяноўскі — другі турбамашыніст энергапоезда. Калі патрэба ў гэтым поездзе адпала — уладкаваўся токарам на сілікатны завод.

(Працяг на 4-й стар.)

## Медсястрой на фронце і ў мірны час



Сярод тых, хто мужна змагаўся з ворагам у час мінулай вайны і наблізіў Дзень Перамогі, і клімаўчанка Марыя Іванаўна Карэліна. Яна ўспамінае:

— Да вайны я працавала ў Краснаполлі. Старшай медсястрой. А як яна пачалася, неўзабаве фронт наблізіўся і да горада. Параненых панавезлі шмат. Усе ваенныя. Лячыла іх. Часці адступалі ўсё далей на ўсход, пакідалі сваю тэрыторыю, а таму медперсанал бальніцы забралі з сабой.

Так патрапіла ў 21-ю армію. Хворым аказвалі дапамогу, цяжкапараненых адпраўлялі далей у тыл, у шпіталь. Лячылі ў палявых умовах. Нялёгка было.

І ўвесь час адступалі. Так дайшлі да Палтавы з сваёй часцю. Нас акружылі. Там балотца было, і мы не маглі своечасова выйсці да сваіх. Гэта калі мы разам з урачом Адамам Вікенцьевічам Пупко паехалі на перадавую за параненымі. Назад у часць ужо не прабіліся.

Імкнуліся на ўсход. Хаваліся. Прасілі паесці ў мясцовых жыхароў. Была паранена. І так яшчэ доўга былі на акупіраванай тэрыторыі, пакуль да сваіх не выйшлі.

Патрапілі, вядома, у іншую часць. Адправілі ў перасыльны пункт. ППГ называўся. Нас усіх праверылі. Мо дывярсанты якія. Добра, што ў мяне ў кішэні гімнасцёркі засталіся пашпарт і дыплом аб заканчэнні школы медсясцёр у Клімавічах. Астатнія асабістыя рэчы так і засталіся ў чамадане ў месцы часовага размяшчэння часці. Прапалі.

Так як дагэтуль мела раненне, мяне адразу ж паслалі ў тыл, у ваенны шпіталь. Тры месяцы праляжала ў ім. А як папраўлася, так і засталася працаваць у сваім шпіталі. Лячыла раненых у шпіталях Варонежа, Тамбова і іншых месцах.

У шпіталі пазнаёмілася і са сваім будучым мужам Васілём Іванавічам Карэліным. Ён таксама франтавік. Усю вайну прайшоў. Пасля яе заканчэння паехалі жыць на яго радзіму ў Саратаў. Але час быў пасляваенны, нялёгкі, галодны. Таму вымушаны былі пераехаць у Беларусь, у Клімавічы. Тым больш, што бацькі запрашалі ў пісьме. Прыязджайце да нас!

Так і зрабілі. Пабудаваліся. Сумесна з мужам і бацькамі. Падраслі дзеці. Дачка Рыма замяніла мяне ў працоўным страі. Таксама медработнік. Стаў ім, ваенным хірургам-акулістам, і сын Валерый. Але так склалася, што яго ўжо няма ў жывых. У Чарнігаве працаваў, раптоўна памёр.

Я ж усё жыццё адпрацавала медсястрой.

Цяпер мне 81 год. Удзельнік і інвалід вайны 1-й групы. Маю чацвярых унукаў і чацвярых праўнукаў. І ўзнагароды за вайну.

**Успаміны запісаў І. ЛАПО.**
**На здымку: М. І. Карэліна.**
**Фота І. ГУЛЕВІЧА.**

*Ніхто не забыты , нішто не забыта*

## Яны змагаліся за Радзіму





Чацвярых дзяцей выхавала Вольга Мартынаўна Ткачова з вёскі Цітаўка Мілаславіцкага сельсавета Савета. Двое з іх маюць вышэйшую адукацыю. Лёс параскідаў іх. Жывуць яны ў розных кутках краіны. А вось іх сястра, паўтарагадовая Тамара, была згублена ў час вайны.

Мужа Вольгі Мартынаўны — Ігната Васільевіча Ткачова (на здымку злева) таксама забрала вайна. Ён, будучы афіцэрам, загінуў у першыя дні вайны. На адваротным баку гэтага фотаздымка, дасланага жонцы, можна яшчэ прачытаць "у радах РККА, памяць прызыву, гор. Магілёў, н/д, с. п. 33, с. д., 30.XI.1935 г.".

Дзецям вядома толькі, што ён да вайны служыў у вайсковай часці ў горадзе Рэчыца. Захаваўся ў сямейным альбоме яшчэ адзін стары даваенны фотаздымак загінуўшага, подпіс пад якім сведчыць "на добрую памяць дарагой Вользе Мартынаўне. Не забывай ніколі і пазірай на маю фотакартку. 12.XII.1935 г. Магілёў, н/д, каля ваеннага сцягу".

Дзевяць дзяцей было ў яе бацькоў Мартына і Ефрасінні Камындаў. Шасцёра іх сыноў пайшлі на вайну. Вярнуліся ж толькі двое — Парфен і Аляксандр.

А вось астатнія чатыры, як сведчыць раённая кніга "Памяць", загінулі: 32-гадовы Даніла за чатыры дні да заканчэння вайны, 5 мая 1945 года ў Германіі; 44-гадовы Іван загінуў у г. Канатопе; 44-гадовы Дзям'ян прапаў без вестак у жніўні сорак чацвёртага, а 38-гадовы Іосіф прапаў без вестак у кастрычніку 44-га. Аднаго з іх вы бачыце на здымку.

Вечная ім памяць, загінуўшым за наш светлы і мірны сённяшні дзень.

І. ЛАПО.

# Віншуем!

**Ивана Семеновича КУРНОСОВА С ДНЕМ ВЕЛИКОЙ ПОБЕДЫ!**

Дорогой муж, отец, дедушка, прадедушка! С великим праздником тебя, родной, с Днем Победы, ибо в ее свершении есть частичка твоего труда, твоего боевого подвига! Ты у нас очень хороший, добрый. По этому поводу можно говорить много слов, но все равно их не хватит, чтобы отблагодарить тебя за твои трудолюбивые руки, за твое золотое сердце, за любовь, которую ты несешь всем своим родным людям! Пусть в этот день засветит ярче солнце, а радость жизни пусть закроет тьму. И пусть здоровье будет лучшим из подарков, а остальное все приложится к нему!

**Жена Александра Карповна, дочери Люся и Галя, невестка Рая, шесть внуков и шесть правнуков.**

* * *

**Валентину Николаевну ГОМОЛКО С ЮБИЛЕЕМ!**

Сегодня у Вас юбилей<br>
И мы от всей души<br>
поздравляем,<br>
Огромного счастья желаем<br>
И добрых улыбок друзей.<br>
Пусть годы летят, словно<br>
птицы,<br>
Печалимся мы иногда,<br>
Стареют порой наши лица,<br>
Душа же всегда молода.<br>
Так пусть же судьба Вас<br>
ласкает,<br>
К Вам будет щедра и мудра,<br>
И мы от души Вам желаем<br>
Здоровья, тепла и добра.

**С уважением Профсоюзный комитет станции Климовичи.**

* * *

**Владимира Николаевича БОНДАРЕНКО С 30-ЛЕТИЕМ!**

Дорогой наш именинник! В этот прекрасный праздничный день твоего рождения мы желаем тебе крепкого здоровья, большого заряда оптимизма, с которым лучше спорится любое дело. Что годы настоящему мужчине, когда он в силе и находится в строю? Пусть счастье и удача не покинут, в душе веселые мелодии живут. Будь всегда жизнерадостен, добр, пусть всю жизнь нам будет хорошо рядом с тобой.

**Жена Жанна, дочь Неля, родные и близкие.**

* * *

**Марию Петровну ПОТЕМКИНУ С ЮБИЛЕЕМ!**

Уважаемая Мария Петровна! В день Вашего рождения не ищем мы особых слов, а просто от души желаем: здоровья, счастья и цветов, и жить все сто, не унывая. Пусть дальше жизнь пройдет спокойно. Не зная горести и бед, и крепким будет пусть здоровье на много-много-много лет.

**С наилучшими пожеланиями участники клуба "Собеседница)**

# Успамін аб вайне — боль душы

Клаўдзія Ермалаеўна Васіленка родам з в. Фядотава Буда Галіцкага сельсавета. Вайна застала яе ў роднай вёсачцы. Жанчын і дзяўчат бралі на акопы. Рылі іх ад Крычава да Гродна. У Гродне іх расфарміравалі каго куды. Мая маці трапіла ў медроту ўпраўлення інжынерна-сапёрнай часці імя Ложнікава. Працавала пры штабе тэлефаністкай. Сувязь перадавалася і прымалася толькі праз яе рукі.

На вайне, як на вайне. Была і тэлефаністкай, і медсястрой,і поварам, і мінёрам-сапёрам. Удзельнічала ў размініраванні многіх дзотаў, мастоў, у тым ліку і на Дняпры. Адным словам, іх часць заўсёды ішла першай, пракладвала шлях для нашых войск уперад. Крычаўскі мост, напрыклад, некалькі разоў пераходзіў з рук у рукі. Шмат было баявых заданняў у яе нялёгкім ваенным жыцці.

Вайну Клаўдзія Ермалаеўна закончыла ў Кенігсбергу. У Данцыгу яшчэ да кастрычніка 1945 г. працавала, бо так трэба было. Там сталі нашы параходы, і ёй разам з іншымі даводзілася грузіць дэталі самалётаў, іх разбіралі па часцях і адпраўлялі на радзіму.

Дэмабілізавалася франтавічка ў кастрычніку 1945-га. Пасля вайны выйшла замуж, працавала медсястрой у г. Кіравааградзе. Пасля разам з двума дзецьмі на руках вярнулася ў родныя мясціны. Працавала на камбінаце будматэрыялаў рабочай. Адна выхоўвала дзяцей, паставіла на ногі, дала ім адукацыю. Сын працуе ветурачом у Касцюковіцкім раёне. Дачка — швачка Дома быту. Сама Клаўдзія Ермалаеўна на заслужаным адпачынку, жыве звычайным жыццём, і толькі ўспамін аб мінулай вайне адзываецца болем у душы...

**Н. КАРНЕЕНКА, г. Клімавічы.**



**На здымку: К. Е. Васіленка (фота з сямейнага альбома).**

# Праца кожнага ўхваляе

**(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.).**

Там да 1966 года і прыпыніўся. Да Аляксандра Ільіча людзі звярталіся з ахвотай, — ведалі, што любую дэталь так вытачыць — камар носу не падточыць. Добрага спецыяліста, тым больш у раённым цэнтры, адразу заўважаць. Таму ў клімавіцкія электрасеткі Аляксандра Траяноўскага ўзялі, што называецца, з першага заходу.

**ВУЧЫЦЦА НІКОЛІ НЕ ПОЗНА**

Уецца гарачая стружка з-пад разца. Ва ўмелых руках токара загатоўка праз некаторы час ператвараецца ў дэталь, якую чакаюць. Колькі іх за гэты час ператачыў Аляксандр Траяноўскі — хто лічыў? І ўсё ж ён, вычытаўшы аднойчы зацікавіўшую яго інфармацыю, вырашыў вучыцца далей. Бацька ў Траяноўскага быў ленінградцам. Можа, таму ўсё, звязанае з гэтым горадам, і прыцягвала ўвагу клімаўчаніна?

Паступіў Аляксандр Ільіч у Ленінградскі судабудаўнічы тэхнікум. Канечне, на факультэт, звязаны з апрацоўкай металаў. Прыкіпела ў яго сэрца да гэтай работы, патрабуючай дакладнага разліку, сканцэнтраванасці, работы думкі. І дыплом з цягам часу абараніў. 18 годзікаў аддаў любімай справе.

Пасля працаваў інжынерам па грамадзянскай абароне, інжынерам аддзела кадраў.

**СЯМ'Я**

З Верай Міхайлаўнай Аляксандр Ільіч разам з 1961 года. Не забыць пару кахання, іх вяселле ў гарачым ліпені. Ганна Герасімаўна, маці Веры Міхайлаўны, нарадзіла чатырох дзетак, якіх заўсёды вучыла працавітасці, сціпласці, дабрыні. І цяпер яна жыве з дачкой. З пятнаццаці год Вера пайшла працаваць на сілікатны завод. Трыццаць год затым — у электрасетках. Лабарантку Траяноўскую заўсёды паважалі ў калектыве. Выпрабаванне спецпальчатак, абутку, масел на высакавольтнай апаратуры — менавіта з гэтым была звязана работа Веры Міхайлаўны. Цаной яе памылкі магло быць чалавечае жыццё. Памылак Траяноўская не дапускала. Надзейнасць — вось што прываблівае ў кожным чалавеку. І асабліва гэта цэняць энергетыкі.

Ужо выйшаўшы на пенсію, Траяноўскія працягвалі працаваць у КЭСе яшчэ некалькі год.

Як жа не спытаць пра дзяцей, пра ўнукаў? Вусны Аляксандра Ільіча кранула цёплая ўсмешка:

— Аня скончыла напачатку вучылішча дашкольнага выхавання ў Магілёве, потым — там жа ўніверсітэт. Працуе ў дзіцячым садку ў Хацені. Ніна паступіла ў той жа ўніверсітэт, яна — выхавацелем у дапаможнай школе-інтэрнаце.

Унукі Траяноўскіх, Саша, Міша і Арцём, самы малодшы, стараюцца дзеда і бабулю радаваць добрымі адзнакамі ў тэхнікуме і ў школе, зяці, Юрый і Уладзімір, маюць вышэйшую адукацыю. Працуюць яны ў "Сасноўцы" і ў СШ № 2, — той самай, дзе калісь вучыўся сам А. І. Траяноўскі.

Вось так і пагаманілі мы праз многія гады з чалавекам, які зрабіў нямала дабра людзям. Які змалку зведаў цану лусты хлеба, цану вайны і міру.

Антычны філосаф Гарацый сказаў: "Без большого труда жизнь ничего не дает смертным". Ні павагі, ні сям'і, ні ўдзячнай людской памяці. Аляксандр Ільіч і Вера Міхайлаўна Траяноўскія з працай сябруюць заўсёды.

**М. ГЛУЗДОЎ.**

# СЛАВА І ПАШАНА ВАМ, ВЕТЭРАНЫ!

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Усе цяжкасці вайны дастойна вынеслі Вольга Качаноўская, Валянціна Давыдзенка, Вера Даніленка, Лідзія Мешчаракова, Галіна Какора, Анастасія Цыбулькіна, Марыя Падабед, Лідзія Яворская. Бясстрашна змагаліся з ворагам партызаны і падпольшчыкі Галіна Гваздзярова, Павел Зубаў, Ганна Слесарава. Усе жахі Ленінградскай блакады перажылі Фёдар Лялёбін, Дзмітрый Белавусаў і многія ветэраны, якія заслугоўваюць асаблівай павагі.

Гордасцю Клімаўшчыны з'яўляюцца Героі Савецкага Саюза Іван Мікалаеў, Мікалай Старавойтаў, Адам Петушкоў, Дзмітрый Цірубін, Міхаіл Рабчэўскі, Дзмітрый Жмуроўскі, Аляксей Петушкоў, поўныя кавалеры ордэнаў Славы Афанасій Кляцко, Ілья Купрыенка.

Цяжкім быў перыяд аднаўлення народнай гаспадаркі. Але дзякуючы масаваму гераізму наша краіна з цягам часу стала вялікай і магутнай.

Сёння мы жывём у незалежнай Беларусі. На жаль, свет не становіцца больш бяспечным. І мы павінны заўсёды памятаць, што абараняць сваю Радзіму, свой дом, сваю сям'ю — прамы абавязак кожнага мужчыны, патрыёта і грамадзяніна.

Набліжаецца светлае, радаснае свята — 55-годдзе Вялікай Перамогі. Мы, ветэраны, яшчэ раз надзенем баявыя ордэны і медалі, каб разам з вамі, дарагія клімаўчане, прыняць актыўны ўдзел ва ўрачыстасцях. Прыміце, калі ласка, шаноўныя землякі, ад нас, удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, шчырую падзяку за тую ўвагу, якая надаецца ветэранам у сувязі са святам!

Раённы савет ветэранаў ад шчырага сэрца віншуе ўсіх са святам Перамогі! Жадаем вам, вашым дзецям і ўнукам, блізкім і родным добрага здароўя, шчасця, дабрабыту і веснавога настрою! Няхай вечна жыве памяць аб загінуўшых за Радзіму!

Слава і гонар вам, ветэраны!

**Г. ДАВЫДОЎ, старшыня раённага савета ветэранаў вайны і працы.**

**Ураджай-2000**

# І ў святы — працы напружанне

Адразу ж пасля першамайскага свята мы наведалі племзавод "Ціманава". Там на палетках панавала напружаная праца. Настрой у дырэктара А. А. Валадковіча быў добры, хаця і адчувалася пэўная заклапочанасць справамі гаспадарчымі. Кіраўніком ён тут усяго чатыры месяцы.

— Вось дабіваем апошняе поле, — задаволена казаў Анатоль Анатольевіч.

А сейбіты ў гэты час спраўлялі дасеўкі. У зямлю кладіся пратручаныя зярняткі ячмяню. На пасяўным полі паляводчай брыгады № 1Любові Уладзіміраўны Старавойтавай.

У тым, каб яны змаглі своечасова і ў лепшыя агратэхнічныя тэрміны адсеяцца, вунь як дапамог араты Уладзімір Нікіфаравіч Осіпаў. На сваім трактары, сапраўды асілку К-701, ён падрыхтаваў да сяўбы амаль 700 гектараў глебы! Вядома, культывіруе якасна, бо ён — механізатар вопытны, з 32-гадовым стажам. І ўсе — у племзаводзе.

Напярэдадні ён выехаў у поле першым, ажно у пяць гадзін раніцы, а шчыраваў ажно да 21 вечара. Звычайна з шасці гадзін раніцы ўсе ўжо ў полі. Час прыспешвае хлебаробаў. Таму спяшаліся ў рабоце сейбіты Аляксандр Пятровіч Міхеенка і Міхаіл Сцяпанавіч Мачахін. На размовы часу не было. Абодва яны імкнуліся хутчэй дасеяць поле пасяўное.

А яно ў гэтай брыгадзе — вялікае. На той дзень было засеяна 286 гектараў. Лічы, як ў іншым калгасе. Тым жа "Герой працы", альбо АГП "Асмолавічы". А яшчэ ж 700 гектараў у брыгадзе азімыя займаюць!

Пастараліся ўсе. Гэта на культывацыі глебы Фёдар Васільевіч Котаў, Станіслаў Міхайлавіч Траццякоў, Мікалай Аляксандравіч Раманаў. Дарэчы, сейбіт А. П. Міхеенка будзе тут і бульбу саджаць, і кукурузу сеяць, бо сеялка ў яго новая, універсальная — СПУ-6. Па восені ён 833 гектары пасеяў азімых. Мясцовыя хлебаробы асаблівую ўвагу надаюць запраўцы глебы. Непадалёк свой механізаваны атрад уносіў у глебу кас (азот). Тут бульбу размесцяць на 100-гектарнай плошчы. Унясуць пад яе ў поўным наборы мінеральныя ўгнаенні — азот, фосфар, калій. Раней дорага абыходзілася гаспадарцы насенне караняплодаў. Сёлета тут ўпершыню вырашылі абзавесціся сваім. І высадкі карэнняў вырашылі пасадзіць на гектарах двух. На дапамогу прыйшлі вучні мясцовай школы.

А яшчэ радавала вока азіміна. Ажно тысячу гектараў было пасеяна ў племзаводзе азімага жыта. Усе яны былі якасна падкормлены авіяметадам. Таму і растуць дружна. Ужо сто гектараў скармілі жывёле, а на іх кукурузу размесцяць. Далі дружныя ўсходы і раннія зерневыя, пасеяныя раней. Так што ёсць усе падставы казаць, што будуць сёлета ў "Ціманаве" з хлебам.

Хлебаробы гаспадаркі яшчэ дасявалі апошнія гектары, а дырэктар А. А. Валадковіч ужо падумваў як і чым убіраць ураджай, які яшчэ вырасце. Калі мы распачалі размову аб хлебе надзённым, клопатах і турботах тутэйшых хлебаробаў. Бо нагрузка на камбайн прыкладна складзе ажно 200 гектараў. Зямель жа цяпер тут значна прыбавілася пасля далучэння асобных іх з ліквідаванага чарнобыльскага саўгаса "Савінічы". Так што, як бачна, дбайныя тут гаспадары.

**І. ЛАПО.**

# Помогла доброта

Хочу от всей души через нашу районную газету отблагодарить хорошего и чуткого человека, нашего, да, еще раз подчеркиваю — нашего директора совхоза "Малышковичи" Михаила Семеновича Пашкевича. В мою семью пришла беда, в апреле умер муж в Могилевской областной больнице. Сейчас такое трудное время, да еще посевная. И несмотря на эти неотложные дела Михаил Семенович выделил машину, чтобы привезти его, да и позже не отказал в транспорте, чтобы похоронить его в Климовичах, где умерший изъявил желание быть похороненным рядом с матерью.

Таких людей как М. С. Пашкевич, сейчас не так уж много. Большое спасибо Вам, Михаил Семенович от меня и от моих детей за помощь.

Здоровья Вам, счастья в личной жизни и быть таким же чутким по отношению к людям.

**С уважением В. ФЕДОТЕНКО.**


**Галоўны рэдактар Мікола МІНЧАНКА**

**"РОДНАЯ НІВА". Заснавальнікі: Клімавіцкі раённы выканаўчы камітэт, Клімавіцкі раённы Савет дэпутатаў, працоўны калектыў рэдакцыі.**

**Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах 2 разы на тыдзень — па серадах і суботах.**

**Кошт 1 экземпляра газеты — 32 рублі.**

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 213600 г. Клімавічы, пл. 50-годдзя Вялікага Кастрычніка, д. № 1.

ТЭЛЕФОНЫ: галоўнага рэдактара -- 2-11-69, намесніка рэдактара і загадчыка аддзела савецкага будаўніцтва -- 2-11-60, адказнага сакратара -- 2-12-63, аддзелаў сацыяльных праблем і інфармацыі, рэдактара аддзела па рэкламе і аб'явах -- 2-12-65, аддзела эканомікі і бухгалтэрыі -- 2-12-64, аддзела радыёінфармацыі -- 2-31-58, прыёмнай рэдакцыі -- 2-11-69, мясцовай друкарні --2-31-55.

Рэдакцыя газеты мае права публікаваць артыкулы і іншыя матэрыялы ў парадку іх абмеркавання, не падзяляючы пры гэтым думкі, погляды і меркаванні таго ці іншага аўтара.

За змест аб'яў і іншых рэкламных матэрыялаў рэдакцыя не адказвае. Усе даведкі -- у рэкламадаўцаў.

**Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы Н. Абжыгалава.**

**Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я. М. Свярдлова (вул. Першамайская, 70, тэл. 25-28-05). Аб'ём — адзін друкаваны аркуш. Зак. 36. Тыраж 1850 экз. Індэкс 64078. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання № 286.**

**Выдавец — аддзел па друку Магілёўскага аблвыканкама**

**Газета падпісана да друку ў 17.00 5. 5. 2000 г.**